УДК 94(476-22)«1921/1939»:930

*С. М. ХОДЗІН*

# СІСТЭМНЫ ПАДЫХОД ДА ВЫВУЧЭННЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ Ў МІЖВАЕННЫ ЧАС (1921–1939)

Определяются основные направления и методы исследования белорусской деревни в межвоенный период (1921–1939), акцентируется внимание на необходимости компаративного и системного подходов в изучении истории крестьянства. Отмечается влияние традиций (в том числе правовых) на развитие социально-экономических процессов в белорусской деревне межвоенного периода. Анализируется взаимосвязь макро- и микроисторического исследования истории крестьянства, уточняется терминология изучаемой проблемы.

***Ключевые слова:*** системность; системный подход; крестьянство; белорусская деревня; этничность; микро- и макроподходы в изучении истории крестьянства; трансформация, модернизация.

The article covers the courses and methods of studying the history of the Belarusian village in the interwar period (1921–1939). The need of the comprehensive, systematic approach, that has clearly set with development of the peasant studies are determined in the article. The influence of tradition, including law aspects, micro-and macroapproaches in the studying of the peasants and the other groups of the village are researched. The terminology are defined.

***Key words:*** consistency; peasant studies; ethnicity; micro- and macroapproaches; Belarusian village; the peasants; transformation; modernization.

Вывучэнне гістарыяграфіі беларускай вёскі выразна дэманструе, што сацыяльна-эканамічныя характарыстыкі, узятыя паасобку, наўрад ці здольны скласці цэласную карціну сялянства як галоўнага фактару развіцця СССР да сярэдзіны XX ст. Вельмі своечасовым стаў комплексны падыход да яго вывучэння і фарміравання (на «мяжы» навук: сацыялогіі, гісторыі, філасофіі і палітычных навук) асобнай навуковай полідысцыплінарнай галіны – сяляназнаўства[1].

Прыхільнікі сяляназнаўства як асобнага спецыфічнага кірунку падкрэсліваюць, што сялянскі свет у многім для сучаснага ўрбаністычнага і постмадэрнісцкага грамадства незразумелы. Значная колькасць інфармацыі засталася не зафіксаванай крыніцамі, яе нельга вызначыць толькі ў выглядзе тэксту. Гэта, да прыкладу, шэраг звычаяў, абрадаў – тое, што гісторыкі традыцыйна перадавалі этнографам. Вызначаючы ролю паўсядзённасці, В. А. Бердзінскіх, у прыватнасці, падкрэслівае, што ўспрыняцце сялянамі часу (месяц, год, дзень і ноч), свят і іншых аспектаў жыцця істотна адрознівалася ў XIX – першай палове XX ст.[2] Тут мы маем магчымасць перайсці да такога феномена ў гістарыяграфіі, які гісторыкі называюць «антрапалагічным паваротам». Мы можам тлумачыць гэтую з’яву і з пункту гледжання пашырэння таго поля гісторыі, якое яна страціла ў выніку дэцэнтралізацыі гуманітарыстыкі. Урэшце гісторыкам заўсёды наканавана лёсам працаваць у міждысцыплінарнай, дакладней – полідысцыплінарнай сферы. Паводле меркавання асобных аўтарытэтных гісторыкаў, гісторыя – гэта ўвогуле сістэма гістарычных навук (Ф. Брадэль, І. Кон). Не спадзеючыся вярнуць калег-гуманітарыяў у лона гістарычнай навукі, у Расійскім дзяржаўным гуманітарным універсітэце створана канцэпцыя аб крыніцазнаўстве як аснове полідысцыплінарнага гуманітарнага сінтэзу. Тэрміналогія гэтага сінтэзу па-ранейшаму застаецца недастаткова распрацаванай, што істотна замаруджвае працэсы міждысцыплінарнай інтэграцыі. Значэнне дадзенай праблемы асабліва адчуваецца, калі праз тэрміналогію, тэрміналагічны апарат вызначаюцца розныя, часам супрацьлеглыя тэорыі гістарычнага працэсу, розныя метадалагічныя падыходы.

Тэрміналагічныя спрэчкі асабліва абвастрыліся, калі заходнееўрапейскія гісторыкі (а ўслед за імі – гісторыкі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы) захапіліся такімі кірункамі, як гісторыя паўсядзённасці і вусная гісторыя. У заходняй гістарыяграфіі стварыўся фетыш паўсядзённасці, каб з выкарыстаннем шырокіх апісанняў, спосабаў, прапанаваных антраполагамі, вызначыць усе дэталі жыцця і быту чалавека. У беларускай гістарыяграфіі гэта тэндэнцыя выявілася не адразу. Напрыклад, можна заўважыць, што нацыянальная канцэпцыя гісторыі Беларусі на пачатку 1990-х гг. стваралася з выкарыстаннем старой марксісцкай тэрміналогіі. Але ўжо з сярэдзіны 1990-х гг. гістарыяграфічная сітуацыя ў многіх краінах былога СССР імкліва змяняецца. Дакладнае тлумачэнне такой з’явы пазначае ў сваёй манаграфіі беларуская даследчыца В. М. Шутава: «…пасля развалу “ідэалагічна” змадэліраванай гістарыяграфіі мы часта шукаем у прыкладах гістарыяграфіі Захаду штосьці, што змагло б стаць новай вытлумачальнай мадэллю, дало б нам новае адчуванне “татальнасці”, якое было беззваротна згублена»[3] (тут і далей пераклад наш. – *С. Х.*).

За апошнія дзесяцігоддзі сяляназнаўства прайшло ў сваім развіцці заўважны эмпірычны і тэарэтычны шлях. Значную ролю ў яго развіцці мела падтрымка ў асобе аднаго з тэарэтыкаў заходнееўрапейскага сяляназнаўства прафесара Манчэстэрскага ўніверсітэта Тэадора Шаніна. Даследаванні Т. Шаніна акрэсліліся на фоне неразумення заходнееўрапейскай навуковай і палітычнай элітай спецыфікі развіцця краін Азіі, Афрыкі і Усходу. Па меркаванню Т. Шаніна, гэта спецыфіка выяўлялася ў тым, як сялянскія супольнасці інтэграваліся ў еўрапейскі рынак. Менавіта Т. Шаніну ўдалося падтрымаць навуковыя даследаванні ў Расіі ў пазначаным кірунку праз шэраг грантаў. Другім фактарам першапачатковай паспяховасці сяляназнаўства сталася дзейнасць выдатнага гісторыка вёскі В. П. Данілава. Менавіта ён змог аб'яднаць вакол сябе калектыў аднадумцаў і ўзняць даследаванні па гісторыі сялянства на новы ўзровень і па якасці, і па колькасці. Урэшце нельга пакідаць па-за ўвагай і падтрымку сяляназнаўства той часткай інтэлігенцыі, якая стагоддзямі шукала ў сялянстве тлумачэнне і перспектывы асобнага шляху Расіі. Такі кірунак навукова-публіцыстычных даследаванняў хоць і выяўляе спробу пераўтварэння сяляназнаўства ў нейкую ўніверсальную тэорыю, але ўсё ж не з'яўляецца рэальнай пагрозай для традыцыйных падыходаў. Да шэрагу прычын такога сцвярджэння (акрамя глабальна-палітычных) можна аднесці і тое, што сучасная вёска з'яўляецца малапрыцягальнай для інтэлектуалаў.

Сярод вынікаў дзейнасці ў галіне сяляназнаўства ў апошнія гады патрэбна адзначыць дзейнасць па развіццю метадалагічных даследаванняў, пачатак якім быў пакладзены выдатным расійскім сяляназнаўцам А. В. Чаянавым. Дзесяцігадовае комплекснае ўключанае палявое міждысцыплінарнае (гісторыка-эканоміка-сацыялагічнае) даследаванне вёскі, праведзенае расійскімі навукоўцамі, стала асновай цікавай публікацыі – «Рефлексивное крестьяноведение. Десятилетие исследований сельской России»[4]. Разам з тым у гэтым выданні, як ні ў якім іншым па сяляназнаўству, вызначыліся і слабыя бакі (у той ці іншай ступені характэрныя для гістарыяграфіі XXI ст.): адсутнасць уліку рэгіянальнай спецыфікі ў сукупнасці з экстрапаляцыяй асобных назіранняў на ўсю сукупнасць з'яў. Пэўныя рысы метадалагічнага раздарожжа вызначыліся і падчас праведзенага ў Маскве напрыканцы сакавіка 2013 г. XX Міжнароднага штогадовага сімпозіума «Шляхі Расіі: альтэрнатывы грамадскага развіцця». На наш погляд, азначаныя з'явы пацвярджаюць, што фундаментальныя тэарэтычныя вывады становяцца магчымымі не толькі дзякуючы ўважліваму вывучэнню сялянства ў дзень сённяшні, але і ў выніку дасціпнага гістарычнага даследавання яго мінулага. Па-другое, неабходна дэталёвае вывучэнне сацыяльна-гістарычных, этнічных і іншых асаблівасцей развіцця сялянства, якія фарміраваліся ў тым ці іншым рэгіёне на працягу стагоддзяў. Апошняе становіцца асабліва актуальным з улікам новых прац аб эканамічных паводзінах, іх псіхалагічных асновах[5].

Этнічнасць як адзін з параметраў узаемадзеянняў у грамадстве выяўляецца ў якасці магутнага каталізатара сацыяльных і палітычных змен. Разам з тым яна праяўляецца перш за ўсё праз традыцыю. Традыцыя як сацыяльная форма выяўлення агульнага закону пераемнасці валодае ўстойлівасцю, што дазваляе збіраць культурны вопыт, ажыццяўляць яго перадачу, а дынамічнасць садзейнічае ўзбагачэнню, узаемадзеянню традыцый з іншымі з'явамі грамадскага жыцця. Фарміруючыся на працягу шматлікіх стагоддзяў, традыцыя назапашвае гістарычны вопыт, мудрасць народа і забяспечвае ўзаемасувязь паміж мінулым і сучасным. Традыцыйнае грамадства беларускай вёскі не адчула ў поўнай ступені кардынальнай трансфармацыі, праз якую прайшла Заходняя Еўропа (уключаючы поўнае разбурэнне адносін у грамадзе). Лёс беларускага сялянства – гэта шмат у чым лёс беларускага этнасу. Шэраг рыс беларускага сялянства склаўся гістарычна, на працягу стагоддзяў.

Роля традыцыі для беларускага вяскоўца была выключнай. Асабліва гэта выявілася ў адносінах селяніна да зямлі. М. В. Доўнар-Запольскі адзначаў: «Зямля – самы каштоўны прадмет для беларуса. Ва ўсіх яго шматлікіх абрадах, песнях, казках, адметных старажытнасцю поглядаў, прасочваецца глыбокае пачуццё павагі да зямлі. Гэта цалкам зразумела, таму што зямля шмат вякоў карміла яго і корміць зараз». І далей прадаўжае: «З прычыны такіх адносін да зямлі мы заўважаем перш за ўсё пастаяннае імкненне да таго, каб яна не выходзіла з роду, які разумеецца ці ў больш вузкім, ці ў больш шырокім сэнсе, у разуменні ўсіх родзічаў увогуле. Гэтае імкненне ўтрымаць надзел сярод родзічаў паказвае, што самая зямля, па меркаванню беларуса, належыць не асабіста яе ўладальніку, а яму толькі ў той ступені, у якой ён – прадстаўнік найперш усяго роду, а гаспадар – галава з'яўляецца толькі яе распараджальнікам. ...Мы знаходзім шматлікія пацвярджэнні таго, што правы на зямлю асвячаюцца і падтрымліваюцца працай на ёй. Недастаткова мець правы на зямлю па нараджэнню – неабходна, каб гэтае права было замацавана працай на гэтай зямлі»[6].

Сістэмнасць вывучэння гістарычных працэсаў патрабуе прымянення мікра- і макрападыходаў, роўна як тэорыі і практыкі макра- і мікравывучэння этнасацыяльных працэсаў. Пры макрападыходзе аб'ект разглядаецца як адзінае цэлае, а ўнутраныя сувязі, унутранае ўпарадкаванне аб'екта ігнаруюцца. Грамадства разумеецца як сістэма, якую нельга растлумачыць на аснове індывідуальных паводзін і ўзаемадзеянняў; наадварот, індывідуальныя паводзіны і асобныя працэсы тлумачацца на аснове сістэмных заканамернасцей і структурных асаблівасцей. Асноўная тэарэтычная цяжкасць у такім выпадку заключаецца ў немажлівасці раскрыць крыніцы сістэмных заканамернасцей і канкрэтныя механізмы іх уплыву і ўзаемаўплыву. Аднак пазначаная праблема максімальна памяншаецца, калі аб'ект разглядаецца як бы «знутры». Пры мікрападыходзе даследуюцца ўнутраная структура, унутраныя сувязі паміж

яго элементамі. Такі падыход дазваляе не толькі вызначыць дынаміку этнасацыяльнага развіцця, але і раскрыць крыніцы выяўленых сістэмных заканамернасцей[7].

У сувязі з ростам увагі грамадства да фактару дэвіянтных паводзін усё больш распаўсюджваюцца мікрагістарычныя падыходы ў даследаванні этнасацыяльных працэсаў і комплекс крыніц, даследуемых пры гэтым. Асаблівасці гістарычнага развіцця і фарміравання нашых архіўных фондаў (найперш з канца XVIII ст.) прадвызначылі тое, што мы тут часцей знаходзім матэрыялы, якія характарызуюць дзяржаву, царкву, установы, і меней – асобных людзей, іх настроі, трагедыі і поспехі. Памяць чалавека знікае разам з яе носьбітам, і мы можам згубіць цэлыя пласты светаўспрымання людзей нашага нядаўняга мінулага. Таму ўсё больш папулярным сярод даследчыкаў становіцца збор і вывучэнне звестак, якія доўгі час існавалі ў вуснай форме. Ёсць таксама і іншыя прычыны росту колькасці апавяданняў, атрыманых ад сведкаў падзей – гісторыкі таксама людзі і звычайна больш хутка ўспрымаюць нейкія тыповыя гісторыі, чым абагуленыя матэрыялы і лічбы, што апісваюць макрагістарычныя працэсы. Падобныя матэрыялы як бы праецыруюцца на мінулае і з мінулага праз сябе, праз свой вопыт, вопыт сваёй сям'і, сваіх сяброў і блізкіх. У падобнага кшталту гісторыях дзейнічае невялікая колькасць людзей, кіруючыся сваімі матывамі, суадносячыся ў межах пэўнага часу і прасторы. Тыповыя гісторыі ўздзейнічаюць эмацыянальна і павучальна, таму нават схільныя да аналітыкі даследчыкі з мэтай даць зразумелае, жыццёвае тлумачэнне сацыяльных працэсаў часам выкладаюць іх у выглядзе тыповых гісторый. Менавіта ў такіх апавяданнях працягваюць жыць этнічныя стэрэатыпы, якія па шэрагу прычын цывілізацыйнага (ідэалагічнага) характару зніклі з поля макрагісторыі. Яны фарміруюцца на аснове шкалы каштоўнасцей, прынятых у сферы дадзенага этнасу, праз прызму традыцый і культуры, якія склаліся ў працэсе яго жыццядзейнасці. Разам з тым выкарыстоўваемая методыка збору і аналізу падобнага матэрыялу не заўсёды дасканалая. Часам даследчыкі прапаноўваюць уласныя падыходы, у выніку іх высновы з'яўляюцца маласуадноснымі. У такім выпадку як мінімум павінны пазначацца як абставіны фіксацыі, так і спосабы яе (пытанні, методыка, тэхнічныя сродкі), а таксама інфармацыя аб аўтары. Неабходна прымаць пад увагу пэўную «аўтаномнасць» архіваў і архіўных фондаў, асаблівасці іх фарміравання і структуру. Не разглядаючы архіўныя фонды як пэўную сінергетычную мадэль, гісторыкі-спажыўцы ідуць у архівы, па трапнаму выразу прафесара Т. І. Хархордзінай, «з мэтай вырываць (красці) факты»[8]. А гэта спараджае недавер да іх вывадаў.

Відавочна, што пры вывучэнні этнасацыяльных працэсаў неабходна спалучаць як мікра-, так і макрагістарычныя падыходы, выкарыстоўваць увесь комплекс крыніц. Важнейшай крыніцай для вывучэння этнасацыяльнай дынамікі беларускага грамадства ў міжваенны перыяд застаецца дэмаграфічная статыстыка. Праведзеныя за апошняе дзесяцігоддзе даследаванні паказваюць, што вывучэнне дэмаграфічных перапісаў не толькі пацвярджае ўжо зробленыя высновы, але і акрэслівае новыя, яшчэ не даследаваныя аспекты.

Мікрападыходы ці мікраўзровень, чаму гісторык павінен аддаць перавагу – тут хацелася б нагадаць, як стварае сваё палатно мастак. Ён то адыходзіць на адлегласць: выпісвае фон, то вяртаецца: дадае дэталі. І так шмат разоў, з рознымі суадносінамі часу. Гісторыя падобна габелену, сатканаму са шматлікіх нітак розных адценняў і колераў. Адпаведна адзіным спосабам пазначыць важкасць кожнага са складнікаў з'яўляецца канструяванне міждысцыплінарных аб'ектаў гістарычнага даследавання, а да іх неабходна аднесці (акрамя пералічаных В. М. Шутавай: «гендэрныя стэрэатыпы», «сям'я», «дыскурсіўныя практыкі», «мова») яшчэ і «сялянства», «вёска» – якімі б састарэлымі яны не здаваліся для новых пакаленняў гісторыкаў[9].

Шматаспектнасць гісторыі традыцыйна дэманструе дэталёвае вывучэнне сацыяльнай структуры насельніцтва ў сукупнасці ўсіх элементаў, у дынаміцы яе развіцця як цэлага. Між тым нярэдкай для гістарыяграфіі з'явай стала тоеснасць «вёска-сялянства». Дзеля ўдакладнення аб'екта вывучэння спынімся на гэтых тэрміналагічных вызначэннях. Большасць праведзеных даследаванняў па аграрнай гісторыі акрэслівае ў якасці аб'екта вёску. У традыцыйным разуменні «вёска» – невялікі населены пункт, жыхары якога займаюцца пераважна сельскай гаспадаркай. Вёска – «сельскае паселішча», у другім значэнні – «сельская мясцовасць» або «жыхары вёскі, сялянства, вясковае насельніцтва»[10]. Да другой паловы XX ст. яна з'яўлялася асноўным тыпам паселішча ў Беларусі, які супрацьпастаўляўся мястэчку і гораду. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» тэрмін пазначаецца ад старажытнаславянскага «вѣсь». Такое ж сцвярджэнне знаходзім у «Этымалагічным слоўніку» беларускай мовы, складальнікі якога прыводзяць прыклады адпаведнікаў не толькі ў славянскіх, але і іншых індаеўрапейскіх мовах у сэнсе «дом, жыллё»[11]. Але ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» мы яго не сустрэнем. Асноўным тэрмінам, які абазначаў «вёску» ў часы Вялікага Княства Літоўскага, з'яўлялася «сяло», зрэдку ўжываўся тэрмін «весь»[12]. Тэрмін «сяло» ўвогуле распаўсюджаная назва сельскага паселішча ва ўсходніх славян. Дарэчы, «Село» – украінская ілюстраваная газета для вяскоўцаў, якая была заснавана па ініцыятыве М. Грушэўскага ў 1909 г. у Кіеве. Часцей, калі мы хочам падкрэсліць род заняткаў, то ўжываем тэрмін сяляне (адпаведна «сельская гаспадарка»). Але з часу распаўсюджвання тэрміна «вёска» з другой паловы XIX ст. ён стаў ужывацца ў больш шырокім сэнсе, ахопліваючы не толькі ўсе віды сталых паселішчаў, жыхары якіх займаюцца сельскай гаспадаркай, але і ўвесь комплекс сацыяльна-эканамічных, культурна-бытавых, прыродна-геаграфічных асаблівасцей і ўмоў жыцця[13]. Паняцце ж «сяло» часцей вызначала

вялікую вёску, адміністрацыйны і гаспадарчы цэнтр для навакольных паселішчаў (у Расійскай імперыі – паселішча царквой)[14]. Насельніцтва вёскі, такім чынам, – і сяляне, і сельскагаспадарчыя рабочыя, і іншыя, якія займаюцца (арганізуюць ці забяспечваюць) працай у галіне сельскай гаспадаркі, палявання, пчалярства, рыбалоўства і г. д. Пры ўсім тым, што ў сярэдзіне 1920-х гг. больш за 90 % вяскоўцаў былі занятымі пераважна ў сельскай гаспадарцы, нельга пакідаць па-за ўвагай саматужнікаў, настаўнікаў, аграномаў, а таксама тых, хто быў заняты ў фабрычна-заводскай вытворчасці ці на калгасна-саўгасных прадпрыемствах, на транспарце. Сацыяльная стратыфікацыя насельніцтва вёскі на працягу 1920–30-х гг. толькі ўскладнялася.

Неабходна пазначыць, што шэраг тэарэтычных і прыкладных праблем мадэрнізацыі другой паловы 1920-х – пачатку 1950-х гг. у СССР, якую называюць то сталінскай, то савецкай, застаюцца нераспрацаванымі. Нярэдкім з'яўляецца меркаванне аб пераўтварэннях мяжы 1920–30-х гг. як «рэвалюцыі зверху». Калектывізацыя сапраўды перадвызначала кардынальныя і даволі імклівыя змены. Аднак па меркаванню класікаў сацыялогіі паслядоўнасць падзей не будзе рэвалюцыйнай, калі ў ёй не прысутнічае масавы сацыяльны рух[15]. Калі ж гаварыць аб спробах рэформ, то толькі ў дачыненні да спробы рэалізацыі новай эканамічнай палітыкі. Дарэчы, на працягу 1920–30-х гг. змяняліся змест і сутнасць самога паняцця «калектывізацыя».

Працягласць і сістэмнасць пераўтварэнняў падкрэсліваюць звычайна праз ужыванне тэрміна «трансфармацыя». Яна разумеецца як «узаемазвязаныя рэвалюцыйныя і эвалюцыйныя змены эканамічных, сацыяльных і палітычных структур грамадства», уключае, акрамя інстытуцыянальна рэгулюемых дзеянняў, таксама новыя з'явы ў матывацыі і эканамічных паводзінах, калі змяняюцца не толькі нормы (прававыя і іншыя), але і сацыякультурная, а таксама тэхналагічная структура грамадства[16]. Калі, дзякуючы працы вядомага сацыёлага А. М. Данілава «Пераходнае грамадства: Праблемы сістэмнай трансфармацыі»[17], тэрміналогія трансфармацыі ў беларускай навуковай літаратуры ў пэўнай ступені распрацавана, то паняцце «мадэрнізацыя» ў «Беларускай энцыклапедыі» ў 18 тамах вызначана адным сказам як «змяненне, удасканаленне, якое адпавядае сучасным патрабаванням» і прыводзіцца прыклад «абсталявання». У апошняе дзесяцігоддзе з'явіліся працы беларускіх гісторыкаў, дзе з выкарыстаннем тэорыі мадэрнізацыі даследуюцца працэсы, што назіраліся ў беларускай вёсцы на працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст.[18] Аднак у якой ступені можна разглядаць пераўтварэнні, што адбываліся ў аграрнай сферы Беларусі 1920–30-х гг. у распаўсюджаным ракурсе пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага грамадства?[19] Ці супрацьстаяць традыцыі пераўтварэнням і ці мае мадэрнізацыя нейкі ўніверсальны для ўсіх краін характар? Неабходна разглядаць беларускую вёску 1920–30-х гг. як сістэму стабільную, што імкнулася да раўнавагі, і выкарыстоўваць агульныя сістэмна-структурныя тэорыі (да прыкладу, функцыяналізм Т. Парсанса)[20] ці, улічваючы глыбіню і дынаміку трансфармацыйных працэсаў, аддаць перавагу Т. Піірайнену, які лічыў неабходным сканцэнтраваць даследчыцкі інтарэс на паўсядзённым жыцці звычайных людзей, выяўленні іх пэўных «стратэгій», якія яны выкарыстоўваюць, каб прыстасавацца да новых умоў жыцця?[21] Заўважна, што адказ на пастаўленыя пытанні патрабуе не толькі адпаведных тэарэтычных распрацовак, але і новага прачытання вядомых крыніц, таксама як і звароту да новага факталагічнага матэрыялу. Неабходна таксама пашырэнне поля гістарыяграфіі савецкай вёскі ў міжваенны час, не абмяжоўваючыся пошукамі толькі беларускіх вучоных. Пры ўсёй спецыфіцы падзей, што назіраліся ў аграрнай сферы Беларусі, у СССР даследуемага перыяду існавалі і вырашаліся сходныя праблемы, прысутнічалі блізкія па сутнасці кірункі і падыходы ў палітыцы ўлад і адносінах вяскоўцаў да пераўтварэнняў.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


[1] Гл.: Бабошкин В. В. Крестьяноведение как особое научно-дисциплинарное направление // Сибирская деревня: история, современное состояние, перспективы развития. Омск, 1998. С. 5 ; Шанин Т. Революция как момент истины. М., 1997.

[2] Гл.: Бердинских В. А. Крестьянская цивилизация в России. М., 2001.

[3] Шутова О. М. Историография и постмодерн: вопрос об идентичности во второй половине XX – начале XXI века. Минск, 2008. С. 30.

[4] Гл.: Рефлексивное крестьяноведение. Десятилетие исследований сельской России / под ред. Т. Шанина, А. Алкумина, В. Данилова. М., 2002.

[5] Гл.: Тарантул В. З. Геном человека. Энциклопедия, написанная четырьмя буквами. М., 2003 ; Ольсевич Ю. Я. Психологические основы экономического поведения. М., 2009.

[6] Довнаръ-Запольский М. Очерки обычнаго семейственнаго права крестьянъ Минской губернии // Этнографическое обозрение. М., 1897. № 2. С. 1–17.

[7] Гл.: Носевич В. Л. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе. Минск, 2004.

[8] Гл.: Хорхордина Т. И. Российская наука об архивах. История. Теория. Люди. М., 2003. С. 37.

[9] Шутова О. М. Пазнач. твор. С. 124.

[10] Гл.: Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1977. С. 486.

[11] Гл.: Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978. Т. 2 : В – Вяшчэль. С. 121.

[12] Гл.: Вялікае Княства Літоўскае : энцыклапедыя : у 2 т. Т. 1. Абаленскі – Кадэнцыя. 20-е выд. Мінск, 2007. С. 406 ; Гістарычны слоўнік беларускай мовы / склад. А. П. Груцо, В. У. Мяснікова, У. М. Свяжынскі. Мінск, 1983. Вып. 3. С. 154.

[13] Гл.: Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. Т. 4. Варанецкі – Гальфстрым. Мінск, 1997. С. 136.

[14] Гл.: Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 5, кн. 1 : С – У [рэд. тома М. Р. Суднік]. Мінск, 1982. С. 447.

[15] Гл.: Гидденс Э.Социология. М., 1999. С. 568.

[16] Гл.: Кодин М. С. Теоретико-методологические проблемы социально-экономических и социально-политических преобразований в России в конце XX века. 1990–2000 гг. М., 2002. С. 12–13.

[17] Гл.: Данилов А. Н. Переходное общество: Проблемы системной трансформации. Минск, 1998.

[18] Гл.: Каханоўскі А. Г. Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства ў другой палове XIX – пачатку XX ст.: метадалогія і методыка аналізу // Российские и славянские исследования : науч. сб. Минск, 2009. Вып. 4 ; Токць С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: другая палова XIX – першая траціна XX ст. Мінск, 2007.

[19] Гл.: Парсонс Т. О социальных системах / под ред. В. Ф. Чесноковой и С. А. Белановского. М., 2002.

[21] Гл.: Piirainen T. Towards a New Social Order in Russia: Transforming Structures in Everyday Life. University of Helsinki, 1997.

Паступіў у рэдакцыю 19.03.2014.

***Сяргей Мікалаевіч Ходзін*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры крыніцазнаўства.